ПЯТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

WWW.RUNBEL.LT

13 жніўня 2001 № 41 кошт 1 літ



*Чарговая сэсія парляманцкай асамблеі НАТА адбылася ў Вільні. Мейсца правядзеньне сэсіі сьведчыць, што Літва няўхільна ажыцьцяўляе курс на ўваход у Паўночна-антлянтычны саюз. У наступным нумары газэты - інтэрвію са старшынём камісіі ў справах НАТА пры Сойме Літоўскай Рэспублікі, сябрам Сойму сп.* **Вацлавам Станкевічам**, *беларусам, нашчадкам знакамітага роду Станкевічаў з Арлянятаў на Ашмяншчыне.*

## Пра выбары

Да прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі засталося зусім няшмат. Але наўрад ці зьменіцца да таго часу пачуцьцё безвыходнасьці й няпэўнасьці, што адчувае сёньня нацыянальна сьведамая частка нашага грамадзтва, не зважаючы на ўсялякія аптымістычныя «прагнозы» й «вынікі апытаньняў», якія часам зьяўляюцца на старонках нашага г. зв. «незалежнага друку». І самае кепскае тут, што мы не верым да канца ніводнаму «кандыдату ад апазыцыі». Ня верым, што хоць бы адзін зь іх да канца сапраўдны ў пляне адстойваньня беларускай нацыянальнай ідэі, нацыянальнай дзяржаўнасьці. Зрэшты, ёсьць Зянон Пазьняк, рэпутацыя якога, як сапраўднага нацыяналіста, беззаганная. Аднак ніхто амаль з нас ня верыць у ягоную «сьветлую будучыню». Ня мае ён патрэбнага шарму й занадта пануры характарам, каб павесьці за сабою большую частку нашых рахманых беларускіх выбаршчыкаў. *Дый ніхто ня верыць* у ягоныя стваральныя, гаспадарчыя здольнасьці, якія патрэбныя будучаму прэзыдэнту: усе падазраюць, што разбурыць ён здольны, а вось ці здольны штосьь добрага пабудаваць?

Што тычацца нашай глыбінкі, дык тут людзі, хоць і чулі пра выбары, не надта й задумваюцца пра іх. Прапаганда «кандыдатаў ад апазыцыі» да іх практычна не даходзіць, хаця, зразумела, і «бацька» ўжо даволі абрыдлеў сваімі ідыёцкімі выбрыкамі ды цацанкамі-абяцанкамі, асабліва моладзі, якая, калі не патрапіла на службу ў міліцыю, туляецца бяз працы, і якой не даюць заробіць, каб жыць прыстойна, хоць бы так, як у суседняй Польшчы, ці ў вас, у Літве. Зразумела, што нашае старэйшае пакаленьне (пэнсіянэры, што збольшага рэгулярна атрымоўваюць сваю мізэрную пэнсію, і да сьлёз закаханыя ў Маскву адстаўнікі - 30 адсоткаў насельніцтва Беларусі!) прагаласуюць за «бацьку». А да іх трэба яшчэ дадаць нашых запалоханых калгасьнікаў, якія прагаласуюць так, як загадае старшыня... Адным словам, выбарчы электарат «бацькі» й сёньня мае салідны, хоць, канечне, і даволі абскубаны ў параўнаньні зь мінулымі выбарамі - стольківж дроваў пасьпеў наламаць за гады свайго «пасьпяховага» кіраваньня.

Аднак пакольki рэальны кантынгент падтрымаўцаў Лукашэнкі усё-ж зьменшыўся, а характар у «бацькі» неспакойны і патрэбуе ўпэўненасьці ў 100-працэнтовую перамогу на выбарах, дык ён занадта нэрвуецца. А, значыць, будуць парушэньні выбарчага заканадаўства, мора ўсялякіх падтасовак, а ў выніку - перамога Лукашэнкі й... міжнароднае непрызнаньне. І чакае нас яшчэ 5 гадоў стагнацыі. Зрэшты, як казаў адзін нямецкі філёзаф беларускага паходжаньня: «Сапраўдныя асобы нараджаюцца ў двух кроках ад тырана». Можа, праз пяць гадоў у нашага нацыянальнага руху нарастуць нарэшце цягліцы, зьявяцца сапраўдныя лідары, і тады ўжо нішто й ніхто не перашкодзіць нам у адбудове свайго Беларускага Дому. Кажуць-жа, што ня так даўно нашыя хлопцы-нацыяналісты добра ўрэзалі ў Кобрыне нашым-жа дамарошчаным РНЕ-шнікам.

**Віктар Ядранцаў**

*Чэрыкаў*

## ПЕРАДВЫБАРЧЫ ШЛЯГЕР

◆ Кітайская мудрасьць сьцьвярджае, што людзі й зямля складаюць асноўнае багацьце дзяржавы. Гэта значыць, што здароўе насельніцтва краіны зьяўляецца безпамылковым індыкатарам стану здароўя дзяржавы наогул. Стан здароўя беларускай нацыі катастрафічны. Спажываньне алкаголю на душу насельніцтва ў пераводзе на чысты сьпірт дасягнула афіцыйна 8,4 л., а ёсьць нават дадзеныя, што гэтая лічба дасягнула звыш 9 л. Гэта ўжо перавышае пакашчык, пасля якога пачынаецца дэградацыя й генэтычнае вырадженьне нацыі. З 1993 г. прырост насельніцтва зрабіўся адмоўны. Ідзе ўжо нават біялягічнае выміраньне нацыі. За 1990 - 1997 гг. захворваньні на актыўны тубэркулёз узрасьлі на 46%, у 5 разоў павялічыліся захворваньні на сіфіліс. Злачынствы, зьвязаныя з наркотыкамі, узрасьлі ў 7 разоў. Стан здароўя падрастаючага пакаленьня ствараe патэнцыяльную пагрозу бясьпекі краіны. Усяго 13-15 % выпускнікоў сярэдніх школаў Беларусі могуць лічыцца здаровымі, 45-47 % маюць функцыянальную паталёгію, 40 % - хранічныя захворваньні. Колькасьць распаўшыхся шлюбаў у 1997 г. дасягнула 67,8 %.

І вось у гэтых абставінах, якраз напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, беларускае тэлебачаньне дае інфармацыю, што прэзыдэнтам прынятая праграма здаровага ладу жыцьця. Трэба адзначыць, што дзяржава спазьнілася з прыняцьцём гэтай праграмы ня менш, чым на 7 гадоў. Але, як кажуць людзі, лепш позна, чым ніколі, толькі быў-бы плён.

Але ці будзе той плён, ці зможа прынятая праграма здаровага ладу жыцьця спыніць катастрофу беларускай нацыі?

Калі робіцца рэкляма нейкаму прадукту, дык яна ўключае абавязкова лепшыя ягоныя якасьці. На беларускім тэлебачаньні праграме прэзыдэнта напрацягу месяца быў прысьвечаны цэлы блёк рэклямы. Спачатку памочнік прэзыдэнта таварыш Посахаў з пафасам выкрывае прадаўцоў тытунёвых вырабаў, якія прадаюць сваю прадукцыю непаўналетнім. Затым намесьнік міністра гандлю гаворыць аб пастанове, якая забараняе продаж тытунёвых вырабаў непаўналетнім. Потым перад вычыма зьяўляецца ўказ прэзыдэнта аб пакараньні за непаслушэнства і, нарэшце, рашучае папярэджаньне прадаўцам, якія не падпарадкоўваюцца ўказу - іхная ліцэнзія на экране перакрэсьліваецца чырвоным алоўкам.

Першым разам пасьля такой рэклямы спачатку неяк недаверліва глядзіш на экран і думаеш, што тут нешта наблытана, такога не павінна быць, потым становіцца сорамна, прыкра, няёмка. Ты разумееш, што вось толькі што перад тваімі вачыма пракручаны передвыбарны шлягер, передвыбарчая палітычная песьня-аднадняўка, разьлічаная на сацыяльна неадукаванага чалавека. Ён павінен засвоіць з усяго сказанага 6 словаў: «Прэзыдэнтам прынятая праграма здаровага ладу жыцьця». Вось гэтыя 6 словаў, а ня сутнасьць самай праграмы, у розных спалучэньнях складуць сацыяльны блёк праграмы кандыдата на палітычны алімп. Пра праграму забудуць адразу пасьля выбараў, як-бы яны ня скончыліся, бо праграма ня мае пад сабой ніякага падмурку. Яна ня спыніць катастрофу беларускай нацыі. Дый яна не для гэтага стваралася.

Прайшоў час. Таварыш Посахаў, як і намесьнік міністра гандлю, зьніклі з рэклямных ролікаў. Замест іх на тэлеэкране мы бачым прыгожую беларускую прыроду - па лузе бяжыць зграбная дзяўчынка да сваёй маці. Маці абдымае дачушку, месяц адлюстроўваецца ў вадзе, і ўзнікаюць словы: «За здаровы лад жыцця!» Аб праграме ні слова, затое эмоцыяў шмат. Нарэшце, 16 траўня, друкуюцца «Асноўныя палажэньні Праграмы сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця Рэспублікі Беларусь на 2001 - 2005 гг.», адкуль мы й даведваемся: «... будут разработаны Государственная программа по формированию здорового образа жизни населения...». Вось так. Мы ўвесь час жывём у асяродзьдзі маны й крывадушша. Аказваецца, праграма яшчэ толькі будзе распрацоўвацца ў бліжэйшыя 5 гадоў, а можа й ніколі. А яна, як паветра, патрэбная ўжо 10 гадоў таму назад...

◆ Вось я й прапаную праграму здаровага ладу жыцьця, альтэрнатыўную той, якая яшчэ толькі будзе распрацоўвацца прэзыдэнцкай камандай. Дарэчы, яна можа стаць індыкатарам прэтэндэнтаў на вышэйшую пасаду дзяржавы. Праграма, не звязаная з мэркантыльнымі передвыбарчымі жаданьнямі кандыдатаў у прэзыдэнты, а скіраваная на пераадоленьне нацыянальнай катастрофы, - прывабіць электарат, накіруе жыцьцё чалавека ў рэчышча гармоніі з законамі прыроды. Тады ягонае жыцьцё будзе не сумяшчальнае з наркаманіяй, п'янствам, курэньнем, брудный лаянкай, наогул, паводзінамі, якія разбураюць, зьнішчаюць вакол сябе ўсё жывое і нежывое, мэтанакіравана вядуць чалавека да дэградацыі.

Канцэптуальныя палажэньні такой праграмы будуць цалкавіта адпавядаць **фундамэнтальнаму прынцыпу самаарганізацыі матэрыі**, што выкладаецца трыма простымі, зразумелымі чалавеку пунктамі:

*1. Сям'я - базавае зьвяно, асноўны носьбіт і ўзнаўляльнік генафонду нацыі, галоўны выхавальнік падрастаючага пакаленьня, захавальнік сямейных традыцыяў, галоўны стваральнік і спажывец на-*

*Працяг на старонцы 3*



***5-6 ліпеня у Доме Літаратара ў Менску адбыўся III Зьезд беларусаў сьвету. Некаторыя зьездаўскія матар'ялы зьмешчаныя на ст. 5. На здымку: дэлегаты зьезду на ганку Дома Літаратараў.***

## Армянская дыяспара Літвы



адзначыла 26 траўня 1700-годзьдзе прыняцьця Арменіяй хрысьціянства. У гонар гэтай падзеі армяне Літвы, Эстоніі й Латвіі пастанавілі ўсталяваць на Крыжовай Гары пад Шаўлямі «хачкар» (камень-крыж). «Хачкары» вядомыя ў Арменіі з IX ст. Іх прысьвячалі вялікім падзеям, ставілі на падворках цэркваў. Шаўляйскі «хачкар» зроблены з туфа скульптарам-камнецёсам Паўлакам Макаранам за 2 мес. і быў спачатку дастаўлены самалётам у Маскву. Потым яго машынай праз Беларусь прывезьлі ў Вільню. Усе клопаты ў справе дастаўцы і ўсталяваньня «хачкара» ўзялі на сябе Армянская згуртаваньне Літвы «Гарун» («Вясна») і Віленскае рэлігійнае згуртаваньне Сьв. Вардана. 25 траўня «хачкар» быў пасьпяхова ўстаноўлены. У Літве сёньня жыве больш 4,5 тыс. армянаў. Згуртаваньне «Гарун» створанае ў 1988 г., узначальвае яго Алег Ісаеў. А першыя армяне ў Літве зьявіліся яшчэ ў XV ст., калі віленскія армяне-кушняры на свае грошы паставілі алтар у Дамініканскім касьцёле. Літоўскія армяне маюць армянскія клясы пры сярэдняй школе ў Каралінках, плённа разьвіваюць сваю культуру, традыцыі, мастацтвы.

**Павал Саўчанка**

## «Як вожык шукаў сонца»




кнігу для дзяцей з такой назвай на літоўскай мове выпусьціў наш сталы аўтар і вядомы віленскі мастак Алег Аблажэй. У кнізе зьмешчаная вельмі кранальная гісторыя пра вожыка, цудоўнага зьвярка, да якога аўтар кнігі здаўна ставіцца з вялікім замілаваньнем. Кожная старонка гісторыі ярка размаляваная самім аўтарам. Шматфарбныя, вясёлыя малюнкі ідэальна стасуюцца да дзяцей. Гэта ўжо другая кніга для дзяцей Алега Аблажэя. Першая «Сем каралеўнаў» выйшла ў Польшчы на польскай мове. Шкада, што наш цікавы віленскі дзіцячы пісьменьнік не знаходзіць сродкаў для выданьня сваіх кнігаў пабеларуску.

**Мая Ніцка**

## Яшчэ ў 1997 годзе

мне, як дэпутату раёна, пры падтрымцы кіраўніцы Рукайняйскай сянюніі Леанарды Сапкевіч удалося назваць адну з вуліцаў у в. Савічуны іменем Ф. Багушэвіча. Пасьля гэтага ТБМ Віленскага Краю зьвярнулася да дырэкцыі й пэдрады Рукойненскай СШ з просьбай, каб яны ўзялі на сябе разам з намі ініцыятыву стварэньня школьнага музэю Багушэвіча, а самой школе надаць ягонае імя. Спрычыніўся да гэтае акцыі й дасьледчык творчасьці паэта Уладзімір Содаль. Гэта ён у свойчас паведаміў мне: «Калі будзеце ў Рукойнах, пацікаўцеся гісторыяй школы. Ці ўшаноўваюць там хоць-як імя Ф. Багушэвіча? Я прапаноўваў сваю дапамогу - не адказалі. Мог-бы прыслаць копіі дакумантаў, фота. І яшчэ я цікавіўся, ці 21 сакавіка кожнага году нагадваюць дзецям сваім, што на гэтай зямлі нарадзіўся і хрысьціўся іхні вялікі зямляк? І на гэта нічога не адказалі…»

Калі У. Содалю на ягоныя запыты з Рукойненскай СШ не адказалі, дык на просьбу-ініцыятыву нашага ТБМ дырэктар школы Алег Нікончык і сакратар пэдрады Яўгенія Грышко сёлета ў студзені прыслалі выпіску з паседжаньня пэдрады, у якой між іншым сказана (пер. мой - Ю. Г.): «Пэдагагічны калектыў устанавіў, што Ф. Багушэвіч да Рукойненскай сярэдняй школы ніякага дачыненьня ня мае»… Вось так аднеслася польска-расейская школа ў Рукойнах да ўшанаваньня памяці «бацькі беларускай паэзіі». І ня дзіўна, што калі я запытаўся ў вучняў з Савічунаў, што ходзяць у Рукойненскую школу, чым імем названая вуліца ў іхнай роднай вёсцы, - яны не змаглі адказаць.

Пасьля адмовы з боку школьнай адміністрацыі з Рукойнаў мы пастанавілі ўстанавіць мэмарыяльную табліцу ў гонар Багушэвіча на будынку бібліятэкі ў Савічунах, а ў самым будынку стварыць Аддзел беларускай кнігі (у бібліятэцы, дарэчы, не было ніводнай беларускай кнігі). Вырашылі таксама стварыць пры бібліятэцы Літаратурны музэй Ф. Багушэвіча ды праводзіць у ім штовясны Багушэвічавы чытаньні (як тое робіцца ў недалёкай Барэйкаўшчыне ў музэі Сыракомлі, створаным пры тамтэйшай бібліятэцы).

Не зважаючы на нашыя сьціплыя матар'яльныя магчымасьці, мы завезьлі ў Савічунскую бібліятэку дзьве сотні добрых беларускіх кнігаў, мастак Алег Аблажэй намаляваў партрэт Багушэвіча, скульптар Эдвард Падбярэскі зрабіў бюст паэта, каторы й будзе ўсталяваны на бібліятэцы. На ўсё на гэта кіраўніцтва Віленскага раёну вылучыла 200 дал., дапамог крыху Дэпартамант нацменшасьцяў Літвы, генконзуль Польшчы ў Літве Мечыслаў Яцкевіч. Дарадчык культуры зь беларускай амбасады ў Літве Ўладзімір Скарахадаў прэзэнтаваў бібліятэцы ў Савічунах каля сотні кнігаў ды дамовіўся пра аплату за бюст Багушэвіча.

У рэшце рэшт, пасьля стольких намаганьняў сяброў ТБМ, кіраўніцтва Віленскага раёну пастанавіла ўшанаваць памяць выдатнага беларускага паэта адумысловай прэзэнтацыяй, што адбудзецца ў верасьні ў в. Савічыны ў будынку мяйцовай бібліятэкі. Праўда, прызначаная ўрачыстая імпрэза на 8 верасьня - дзень прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі (!). Нам цяжка меркаваць, чым кіравалася кіраўніцтва Віленскага раёну, выбраўшы гэтую дату, бо сябры ТБМ прасілі, каб прэзэнтацыя Багушэвіча мела адбыцца 27 ліпеня ў Дзень абвешчаньня Дэкляарацыі аб сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь.

*Старшыня ТБМ Віленскага Краю*
**Юры Гіль**

## Не адбылася пілігрымка

ў Беларусь да Маці Божай Будслаўскай, апякункі Беларусі, якую мела правесьці ТБМ Віленскага Краю. Ужо каторы раз Кансулят Рэспублікі Беларусь у Літве не выдае нам калектыўных уязных візаў для правядзеньня ў Беларусі хрысьціянскіх імпрэзаў. Відаць, «праваслаўныя атэісты» моцна акапаліся і ў беларускай амбасадзе ў Вільні.

**Юры Гіль**

**Выказваем глыбокае спачуваньне шматгадоваму кіраўніку Беларускага таварыства Тракайскага раёну Мікалаю Максімавічу Рулінскаму й ягоным блізкім з нагоды заўчаснай сьмерці ягонай жонкі**

*Управа ЗБГА*

# Святыня праваслаўнай Беларусі

20 траўня ў Жыровічах адзначаўся Дзень Жыровіцкай Маці Божай. Маленькія Жыровічы з насельніцтвам каля 3 тыс. жыхароў прыймалі паломнікаў і вернікаў ня толькі з усяго абшару Беларусі, але й з Малдовы, Расеі, Украіны, Польшчы, прыбалтыцкіх краінаў. Вулачкі й навакольле мястэчка былі ўшчыльную забітыя й апаясаныя машынамі, вялікая гурма вернікаў рушыла ў бок славутага Жыровіцкага манастыра. Прыехала й прыйшло больш за 10 тыс. людзей. У манастырскіх цэрквах вялі набажэнствы вялікія герархі Беларусі й іншых краінаў, службы дапаўняліся пранікнёнымі малітвамі веруючых на падворках манастыра й прылеглых да яго вулачках.



Дзень Жыровіцкай Маці Божай. 20 траўня 2001 г.

Цудатворная ікона Жыровіцкай Божай Маці збаўляе ад хваробаў, дае людзям веру й надзею, падтрымлівае ў добрых справах і ў бядзе. А гісторыя гэтай сьвятыні такая.

У 1470 г. мяйсцовая дзятва пасьвіла ў лесе жывёлу гаспадара Аляксандра Солтана, праваслаўнага. Дзеці заўважылі нейкае незвычайнае зіхаценьне ў галінах старой дзічкі. Наблізіліся і ўбачылі на дрэве маленькую, памерам зь дзіцячую далонь, ікону Божай Маці, што й праменіла незвычайным зьзяньнем. Яны прынесьлі яе гаспадару й той паклаў незвычайную іконку ў куфэрак. Назаўтра ён хацеў паказаць свой набытак гасьцям, але, адчыніўшы куфэрак, убачыў, што іконка зьнікла. Праз колькі дзён тыя самыя пастушкі зноў убачылі яе на той самай старой дзічцы.

Цуд зьяўленьня іконы й ейныя цудатворствы пачалі прыцягваць людзей. Жыровічы зрабіліся мейсцам паломніцтва, паўстаў манастыр, навокал якога сяліліся людзі, стварыўся прыход. Але ў 1520 г. здарыўся пажар, які зьнішчыў царкву з сьвятою іконаю, хоць людзі й прабавалі яго тушыць. Вельмі гаравалі за ікону Божай Маці. Але аднойчы дзеці, што вярталіся з манастырскай школы, убачылі каля згарэлай царквы сядзячую на валуне незвычайнай прыгажосьці жанчыну, ад якой ішло сьвятло. Дзеці расказалі пра гэта бацькам, тыя пасьпяшалі да валуна, але жанчыны на ім ужо не было. На валуне-ж ляжала ікона Божай Маці, амаль непашкоджаная агнём. На гэтым мейсцы жыхары збудавалі вялікі каменны сабор, будавалі яго 70 гадоў, а асьвечаны ён быў у гонар Усьпеньня Багародзіцы.



На падворку хаты паэткі Ларысы Геніюш у Зэльве: Ю. Качук, Хв. Нюнька, А. Аблажэй, Л. Анацка.

Сёньня тэрыторыя манастыра з шматлікімі будынкамі й цэрквамі займае вялікую плошчу. Чаго толькі не перажыло гэтае сьвятое мейсца за сваё пяцісотгодзьдзе! І самым разбуральным стагодзьдзем было для яго толькі што прамінулае - XX. Але Жыровіцкі манастыр выжыў, усе намаганьні зачыніць цэрквы, выгнаць вернікаў, сьветароў і манахаў, забраць цудатворную ікону былі дарэмныя. Манастыр праз увесь гэты час жыў і дзейнічаў, і ўсе перакана080ныя, што гэтаму спрыяла Божая Маці Жыровіцкая.

Віленскія пілігрымы каля дому Іваноўскіх у Лябёдках: М. Іголка, П. Саўчанка, А. Трусаў, Н. Яруліна, Хв. Нюнька, С. Карабач.

Цяпер Жыровічы - сталіца праваслаўнай Беларусі. Тут шмат цэркваў, манастыр, духоўная сэмінарыя (аднавіла дзейнасьць з 1989 г.), адчыненая духоўная акадэмія. У сэмінарыі й акадэміі вучыцца каля 400 студэнтаў, што атрымліваюць добрыя веды ў сваёй будучай прафэсіі, а таксама ў замежных мовах, псыхалёгіі, гісторыі. Маецца свая гаспадарка з жывёлагадоўляй, вырошчваецца садавіна й гародніна, якой забясьпечваецца мяйсцовае насельніцтва й госьці.

Штодня ідуць пакланіцца Божай Маці Жыровіцкай паломнікі з усіх куткоў Беларусі ды прылеглых краінаў. Твары іхныя задуменныя, спакойныя, бачна, як роспачі і клопаты пакідаюць іх, у людзей зьяўляецца надзея на лепшую будучыню. І нашая нешматлікая віленская купка прасіла ў цудатворнай іконы дапамогі й збаўленьня ад жыцьцёвых праблемаў, прасіла заступіцца за нашую гаротную Беларусь, дапамагчы нашым суродзічам у Беларусі дачакацца лепшага жыцьця.

**Павал Саўчанка**

# ПЕРАДВЫБАРЧЫ ШЛЯГЕР

*Працяг. Пачатак на 1 старонцы*

*цыянальных багацьцяў, нацыянальнай культуры, якая зьяўляецца часткай агульначалавечых каштоўнасьцяў.*

*2. Базавай мадэльлю адукацыі прымаецца фундамэнтальная мадэль «Экаполіс, культура, здароўе», якая найбольш грунтоўна разьвівае інтэлектуальны патэнцыял чалавека, выхоўвае яго ў гармоніі з прыродай.*

*3. Экалягічны турызм, турыстычны бізнэс становіцца стрыжнем маладзёвай палітыкі, мэханізмам, які адкрывае шлюзы сацыяльнай, палітычнай і эканамічнай актыўнасьці моладзі, прыводзіць у дзеяньне вялізны сацыяльны пласт, які будзе актыўна ўдзельнічаць у пабудове дэмакратычнай дзяржавы, выхаваньні новага свабоднага чалавека. Моладзь становіцца вядучым зьвяном у пабудове ўмоваў свайго жыцьця.*

Трэба, у рэшце рэшт, зразумець, што кожны чалавек у грамадзтве ўсё сваё жыцьцё праводзіць у духоўным энэргітычным полі сям'і: спачатку ў сям'і сваіх бацькоў, потым сам стварае сям'ю, у якую прыўносіцца й духоўнае поле бацькоў. Потым зьяўляюцца нашчадкі, што знаходзяцца ў энэргетычным полі сваіх бацькоў, свіх бабуляў і дзядуляў. Маладое пакаленьне - гэта інтэгральны пакашчык, перадусім, духоўнага поля сям'і. Таму першы пункт праграмы павінен зрабіцца адным з галоўных палажэньняў ідэалёгіі дзяржавы. Гэта адразу створыць умовы, пры якіх невычарпальныя рэзэрвы культуры, гістарычнага вопыту, традыцыяў, маралі, этыкі беларускай нацыі, аб якіх народ забыўся ў запале барацьбы з прыродай, будуць пастаўленыя на дапамогу сям'і ў справе выхаваньня падрастаючага пакаленьня, самавыхаваньня самай сям'і. Здаровая сям'я - гэта падмурак здаровага ладу жыцьця, здароўя нацыі.

◆ Прыходзіць час, дзеці пачынаюць вучыцца ў школе, і школа актыўна ўключаецца ў выхаваўчы працэс. Вынікі выхаваньня наўпрост залежаць ад таго, як мэты сям'і й школы ў выхаваньні чалавека адпавядаюць законам прыроды. Стан здароўя беларускай нацыі патрабуе неадкладнай замены сыстэмы адукацыі, якая скіраваная на выхаваньне сацыяльна неадукаванага, нацыянальна несьвядомага, духоўна пакалечанага чалавека, чалавека разбуральніка, чалавека люмпэна.

Існуючая мадэль адукацыі павінная быць замененая мадэльлю «Экаполіс, культура, здароўе». Экспэрымэнтальныя праверкі мадэлі ў Маскве, Татарстане, Беларусі далі выдатныя вынікі. Мадэль актыўна ўключае ў працэс адукацыі правае паўшар'е галавы, якое адказвае за вобразнае мысьленьне, максымальна садзейнічае разьвіцьцю інтэлектуальнага патэнцыялу чалавека. Але гэта магчыма, калі адукацыя вядзецца на базе этнічнай культуры, якая заўжды складае адзінае гарманічнае цэлае з прыродным асяродзьдзем пражываньня нацыі, што й дазваляе найбольш поўна разьвівацца асацыятыўнаму мысьленьню навучэнцаў. У гэтым выпадку адукацыя йдзе ў рэчышчы гармоніі чалавека з прыродай незалежна ад нацыянальнай прыналежнасьці чалавека й дае выдатны плён. Калі бацькі ад нараджэньня дзіцяці ня могуць выхоўваць у яго любоў да зямлі, да прыроды, сярод якой яно нарадзілася, калі яны самыя абыякава, а не, дык і варожа, ставяцца да прыроднага й сацыяльнага асяродзьдзя, у каторым пражываюць, і прыкрываюць сваю сутнасьць балбатнёй аб жаданьні высокай культуры для свайго дзіцяці, калі ім у гэтым дапамагае школа, - тады вырастае разбуральнік. Ён зламае дрэва, заб'е птушку, пакрыўдзіць слабейшага, ён унутрана гатовы да ўсялякага ганебнага ўчынку, бо бацькі не заклалі ў ягоную душу нічога сьвятога. І гэты трагічны лёс закладаюць свайму дзіцяці, найперш, родныя бацькі.

◆ Энэргітычны патэнцыял моладзі намнога вышэйшы, чым у сталага пакаленьня. Але пры існуючым палітычным становішчы моладзі адводзіцца пасыўная роля бязмоўнага выканаўцы. Моладзь мэтанакіравана адлучаецца ад удзелу ў сацыяльным, палітычным і эканамічным жыцьці краіны, замаруджваецца ейнае пераўтварэньне ў паўнацэнных грамадзянаў, вельмі доўга яна застаецца ў стане дзяцінства й безадказнасьці ў працэсе свайго разьвіцьця. Маладзёвую палітку дзяржавы трэба зьмяніць неадкладна.

Моладзь з раньняга дзяцінства павінная несьці адказнасьць за сваю будучыню й прымаць актыўны ўдзел у ейнай пабудове. Сёньня, калі экалягічная праблема робіцца глябальнай для цывілізацыі, яна робіцца ўсё больш і больш вострай для Беларусі, - і ейнае вырашэньне бяз моладзі немагчымае. Менавіта Беларусь павінная стацца прыкладам для сьвету, як краіна, у якой моладзь на дзяржаўным узроўні нясе вялікую долю адказнасьці за экалягічны стан дзяржавы.

Мэханізмам, які прывядзе ў дзеяньне маладзёвую палітыку, надасць ёй агульнадзяржаўны зьмест, зьяўляецца экалягічны турызм, экалягічны бізнэс. Гэтая сфэра дзейнасьці павінная быць поўнасьцю перададзеная ў рукі моладзі заканадаўча з шырокімі юрыдычнымі правамі, з прыцягненьнем да працы ў гэтай сфэры ўсіх структураў сыстэмы адукацыі й адпаведных галінаў навукі. Моладзь атрымае ў сваё распараджэньне тэлевізійны канал, радыёстанцыю, створацца найбольш выгодныя ўмовы для выданьня моладзевых газэтаў і часопісаў, рэклямных выданьняў. Заканадаўча будзе забаронены кожны манапалізм у сфэры экалягічнага турызму, экалягічнага бізнэсу. Кожная самая маленькая маладзёвая арганізацыя зможа рэалізаваць свае пляны на міжнародным узроўні, калі ейная дзейнасьць дапамагае паляпшэньню экалёгіі дзяржавы. Беларусь - гэта патэнцыяльная эўрапэйская база воднага, пешага, коннага, аўтамабільнага, індывідуальнага экалягічнага турызму. Кожны куток беларускай зямлі перапоўнены гістарычнымі падзеямі, якія тычацца ўсёй эўрапэйскай супольнасьці, і вабяць сваёй прыгажосьцю.

Разьвіцьцё экатурызму магчымае толькі на аснове стварэньня шырокай сеткі рыцарскіх, экалягічных, гістарычных клюбаў, клюбаў паводле інтарэсаў, малых прадпрыемстваў у сфэры разьвіцьця, аднаўленьня народных промыслаў, рамёстваў, фірмаў экалягічнага турызму. Калі яны змогуць самастойна зарабляць сродкі на сваю дзейнасьць, на сваё разьвіцьцё, тады зьявіцца стымул беражлівых адносінаў да прыроды, неабходнасьці паляпшэньня стану навакольнага асяродзьдзя, як базы эканамічна выгадных праектаў. А гэта самы кароткі шлях да выхаваньня ў моладзі пачуцьця гаспадара сваёй зямлі, адказнасьці за ейны стан, - што вядзе да адраджэньня культурных традыцыяў, самабытнасьці беларускага народу, росту самапавагі, пачуцьця ўласнай годнасьці.

П'янка, наркотыкі, курэньне, спрыяльныя для распаўсюджаньня СНІД'а ўмовы, што ствараюць дысгармонію паміж чалавекам і прыродай, разбураюць імідж экалягічнага турызму, ягоную эканамічную базу, - будуць сустракаць рашучы адпор з боку менавіта моладзі.



***А я за Лукашэнку галасаваць ня буду!*** *Здымак Генадзя Жынкова*

◆ Вось такая праграма здаровага ладу жыцьця фармуе фізычна й духоўна здаровага, сацыяльна актыўнага, нацыянальна сьвядомага чалавека, патрыёта сваёй зямлі, бо яна гарманічна ўключае ў працэс выхаваньня ўсе каштоўнасьці сацыяльнай сфэры, якія спрыяюць гармоніі чалавека з прыродай: сям'ю, адукацыю, гістарычны вопыт нацыі, ейны духоўны патэнцыял, родную зямлю, ейнае энэргітычнае поле.

Безумоўна, прапанаваная праграма здаровага ладу жыцьця пачне ажыцьцяўляцца, калі на выбарах народ запросіць да ўлады кампэтэнтнага, нацыянальна сьвядомага чалавека, сапраўднага патрыёта беларускай зямлі, для якога асноўная каштоўнасьць у жыцьці ёсьць росквіт ягонай роднай зямлі, роднай краіны. Іншых магчымасьцяў для пераадоленьня катастрафічнага стану здароўя беларускай нацыі, для пасьпяховага разьвіцьця Беларусі, наогул, для пераадоленьня глябальнага крызысу чалавечай цывілізацыі прырода не прадугледзіла.

**Валеры Арцішэўскі**
*сябра цэнтральнай рады БСДГ*

# «Не молчи - попадёшь в палачи!»

Наіўна было-б меркаваць, што Чэчэнія, панесшая такія пакуты ад «Вялікага брата» (у 1944 г. падчас сталінскай дэпартацыі бязьвінна загінулі сотні тысячаў чэчэнцаў), застанецца ў баку ад цэнтрабежнага працэсу, калі разбураны як картачны дамок Савецкі Саюз адпусьціў на волю ўсе свае трыманыя на штыкох саюзныя рэспублікі, якія тут-жа былі прызнаныя сусьветнай супольнасьцю. Пярэчаньне, што Чэчэнія (дакладней, у той пэрыяд - Чэчэна-Інгушэція) ёсьць не «саюзная», а «аўтаномная» рэспубліка, а таму павінная застацца ў складзе Расеі, - гучыць неперакканальна: адміністрацыйны падзел тэрыторыяў заселеных нярускім народам на г. зв. «аўтаномныя рэспублікі» юрыдычна ня меў наўмэце адбіраньне ў гэтых народаў канстытуцыйнага «права нации на самоопределение». Дый якая розьніца народу, які паўтары стагодзьдзя марыць пра свабоду, у якую катэгорую савецкіх рэспублікаў яго «запіхнуць» партыйныя намэнклятуршчыкі? (Яшчэ Андрэй Дзімітравіч Сахараў у распрацаваным ім праекце Канстытуцыі СССР рэкамэндаваў прывесьці ўсе нацыянальныя рэспублікі да аднай адміністрацыйнай роўнасьці).

У пачатку 1992 г. Расейская Фэдэрацыя, усьвядоміўшы, верагодна, гістарычную непазьбежнасьць аддзяленьня Чэчэнскай Рэспублікі (а, магчыма, немагчымасьць яе далей утрымліваць), пачала працэс прызнаньня абвешчанай ёю незалежнасьці. 12-14 сакавіка ў Сочы адбыліся двухбаковыя перамовы паміж групамі расейскіх і чэчэнскіх экспэртаў - прадстаўнікоў Вярхоўнага Савету РФ і Парляманту Чэчэніі. Яны правялі папярэднюю апрацоўку асноўных пытаньняў (палітычных, прававых, эканамічных, калектыўнай бясьпекі), якія павінныя былі легчы ў аснову ўзаемадачыненьняў абедзьвюх рэспублікаў. Пратакол ад 14 сакавіка 1992 г., падпісаны кіраўнікамі экспэртных групаў - нам. старшыні Вярхоўнага Савету РФ Віктарам Жыгуліным і старшынём Камітэту Парляманту ЧР Зелімханам Яндарбіевым - акрэсьліў кола пытаньняў для будучай афіцыйнай сустрэчы паўнамоцных дэлегацыяў рэспублікаў. На першым мейсцы ў гэтым дакуманьце стаяла пытаньне аб «признании политической независимости и государственного суверенитета Чеченской республики».

25-28 траўня 1992 г. у Маскве адбыўся працяг гэтых перамоваў, на якіх расейскі бок падцьвердзіў вынікі сочанскай сустрэчы. Аднак далей за гэта справа не пайшла: афіцыйная сустрэча зь віны Расеі не адбылася. Перамовы былі сарваныя. (Зелімхан Яндарбіев, «Чечения - битва за свободу», Львоў, 1996 г., с.с.127-128, 142; «Московские новости», 16-24 чэрвеня, 1996 г., с. 8, Сандобар Шэрматава «Четвёртая попытка»; John B. Dunlop «Russia confronts Checnya: roots of a separatist conflict», Cambridge University Press, 1998, с.с. 170-171).

12 траўня 1997 г. пасьля 2 гадоў крывавай вайны паміж Расеяй і Чэчэнскай Рэспублікай Ічкерыя быў заключаны «Договор о мире и принципах мирных взаимоотношений», згодна якога статус Чэчэнскай Рэспублікі павінен быў быць акрэсьлены ў 2002 г. Дамову падпісалі два ўсенародна абраныя прэзыдэнты, Барыс Ельцын і Аслан Масхадаў, аднак разам зь першымі расейскімі «кропкавымі ўдарамі» па Чэчэніі гэтая дамова ў Расеі была начыста забытая, і пра яе ўжо ніхто, апрача праваабаронцаў, не ўзгадваў. Маглі-б заходнія лідары, ну хоць-бы нехта зь іх, пацікавіцца у «друга Бориса», а затым і ў «друга Владимира», як так здарылася, што подпіс прэзыдэнта Расеі ў сапраўднасьці нічога ня варты? Паводзіны заходніх дэмакратыяў у пытаньні Чэчэніі вельмі нагадваюць іхнае пасьляваеннае стаўленьне да Сталіна: «Як бы чаго, ня дай Бог, ня выйшла!» Памятаеце, як у 45-ым Захад «здаў» Сталіну казакаў? Потым гэтак сама «трепетно» на Захадзе ставіліся да Хрушчова, Брэжнева, вяртаючы ім перабешчыкаў, якіх чакалі доўгія гады савецкіх канцлягероў... Цяпер вось спакойненька «здаюць» Пуціну чэчэнскі народ.

Можа, на Захадзе зусім ня ведаюць, што чыніцца ў Чэчэніі? Не разумеюць маштабы трагедыі? Ды не, цывілізаваны сьвет добра ведае пра твораныя там злачынствы. Пра гэтае сьведчыць хоцьбы адкрыты ліст 526 еўрапэйскіх інтэлектуалаў ачольнікам дзяржаваў Эўрапэйскага Зьвязу, асабіста ўрачанае напрыканцы кастрычніка 2000 г. у Парыжы Жаку Шыраку і Ўладзіміру Пуціну (падчас візыту апошняга ў Францыю). Там былі й перасьцярогі пра «маўклівае змоўніцтва» з краінай, што зьдзяйсьняе генацыд, і словы пра «блізарукі заходні прагматызм», каторы можа падштурхнуць Францыю да заключэньня з Расеяй «вельмі выгоднага» нафтавага пагадненьня, і заклік «растлумачыць палкоўніку КДБ», што суйснаваньне дзяржаваў у сучасным сьвеце будуецца на «недапусьцімасьці каляніяльных войнаў, масавага зьнішчэньня мірнага насельніцтва й этнічных чыстак»...

У Парыжы Эўропа, у абыход маральных ды прававых міжнародных нормаў, падпісала пагадненьне зь дзяржавай, каторая ўжо паўтары гады зламысна парушае Жэнеўскую Канвэнцыю, каторая ўзьвяла ваенныя злачынствы ў будзённую норму. Хацеў таго Эўрапэйскі Зьвяз ці не, пагадненьне гэтае зрабілася для Расеі індульгенцыяй на пашырэньне й паглыбленьне палітыкі «Чэчэнія без чэчэнцаў!» На парозе новага тысячагодзьдзе чалавецтва ў абліччы дэмакратычнае Эўропы практычна багаславіла генацыд маленькага народу, адкрыўшы прэцэдэнт пасыўнага прыняцьця сусьветнай супольнасьцю антычалавечых мэтадаў барацьбы з г. зв. «сэпаратызмам».

Прынамсі, паводле маральных меркаў, заходнія дэмакратыі зрабіліся хаўрусьнікамі злачынства, якому няма тэрміну даўнасьці. Памятаеце ў Аляксандра Галіча: «Не молчи - попадёшь в палачи!»?

**Надзея Банчык**
*(Каліфорнія)*
**Уладзімір Крылоўскі**
*(Нью-Ёрк)*

# За цаной не пастаім...

*Заканчэньне. Пачатак у №40*

## 2. Страты

Каб асягнуць сваю мэту ўнівэрсальнай перамогі камунізму, Сталін дазволіў нішчыць сотні, тысячы й нават мільёны людзей, каторыя ня так хацелі, або ня так думалі, як думаў таварыш Сталін. Лейды Нансы Астор, якая была першая жанчына ў брытанскім парляманьце, будучы ў Маскве ў сьнежні 1931 г., мела гонар спаткаць Сталіна. У часе іхнай размовы яна не пабаялася запытацца ў яго: «Як доўга ты будзеш забіваць людзей?» Перакладчык тут затрымаўся, але Сталін загадаў перакласьці сказанае лэдзі Астор. І адказаў: «Працэс будзе доўжыцца датуль, пакуль ня будзе ўстаноўленае камуністычнае грамадзтва».

Згодна прапановы Леніна, у часе грамадзянскай вайны-рэвалюцыі камуністыя пачалі закладаць канцэнтрацыйныя лягеры для «неблаганадзейных», якіх за Сталіна налічвалася тысячы, а вязьняў - мільёны. Таксама й Гітлер, калі прыйшоў да ўлады ў 1933 г., у тым самым годзе залажыў два канцэнтрацыйныя лягеры, у Орэнбургу й Дахаў. А напачатку Другой сусьветнай вайны ў 1939 г. нацысты мелі ўжо 6 такіх лягероў, дзе сядзела 21 тыс. палітвязьняў.

Другая сусьветная вайна была вайною агрэсараў, вайною, якая мела зьнішчыць існуючыя сыстэмы дзяржаўнага ладу й нават некаторыя народы, што з тых ці іншых прычынаў не адпавядалі ім.

Варта згадаць, што ў апошняй вайне Савецкі Саюз панёс найбольшыя страты ў людзях. Першую ацэнку стратаў СССР у Вялікай Айчыннай Вайне даў Сталін у размове з карэспандэнтам «Праўды» ў 1946 г. Тады ён сказаў, што СССР страціў каля 7 млн. чалавек. Аднак такі лік ёсьць далёкі ад праўды. Камуністы хавалі свае калясальныя страты перад народам.

Агулам прынятае лічыць, што людзкія страты СССР у апошняй вайне складаюць 10 млн. вайскоўцаў і такую самую колькасьць цывільных, разам - 20 млн. чалавек. Але Л. Брэжнеў аднойчы абмовіўся: «больш за 20 млн. душ». Узьнікае пытаньне, наколькі больш?

Савецкі палкоўнік К. Клімаў, які перайшоў на Захад, пісаў у кніжцы «Советские маршалы имеют слово», што савецкая армія ў вайне супраць немцаў страціла 8,5 млн. забітымі, 2,5 млн. памерла ад ранаў, 2,6 млн. памерла ў лягеры для ваеннапалонных. Аднак такой лічбы няма ў савецкіх архівах. Ды некаторыя заходнія дасьледчыкі прынялі дадзеныя Клімава за блізкія да праўды.

Прычынай вялікіх людзкіх стратаў у савецкай арміі ёсьць той факт, што шмат людзей пасылалі на фронт безь ніякае баявой падрыхтоўкі. Такіх людзей у першым-жа баі ахопліваў страх, паніка, за якімі йшлі ўцёкі й немінучая сьмерць. Камандзір зьвязу В. Дзятлаў распавядае пра гэткі эпізод на Беларускім фронце ў 1943 г.:

«Ланцуг людзей у цывільнай вопратцы праходзіў уздоўж акопаў.

– Славяне, хто вы й скуль паходзіце?

– Мы з Арлоўшчыны, падмацаваньне.

– Што за падмацаваньне ў цывільнай вопратцы й безь вінтовак?

– Нам загадалі дастаць вінтоўкі ў баі...»

На дэмаграфічнай статыстыцы СССР як за ваенны, так і за пасьляваенны пэрыяд стаяў грыф «Сакрэтна». І толькі ў часе гарбачоўскай адлігі ўдалося зазірнуць у сакрэтныя дадзеныя. Пасьля карпатлівых падлікаў атрымалася лічба 26,6 млн. людзкіх ахвяраў у часе Вялікай Айчыннай Вайны.

За няпоўныя 6 гадоў вайны, якую немцы вялі ў Эўропе, Афрыцы й на моры, яны страцілі 3,5 млн. вайскоўцаў і 780 тыс. цывільных, большасьць каторых загінула ў часе паветраных налётаў саюзьнікаў на нямецкія гарады й прамысловыя аб'екты. Аднак Б. Сокалаў падае, што страты немцаў большыя й складаюць агулам 5,95 млн., што ў 7,3 разы менш за савецкія страты (Сокалаў лічыць, што Савецкі Саюз страціў падчас апошняй вайны 43,5 млн.). Як бач, нямецкія страты ў людзях у параўнаньні з савецкімі ёсьць не такія вялікія, асабліва, калі ўзяць пад увагу, што СССР пачаў вайну на амаль два гады пазьней за немцаў і ваяваў толькі на адным фронце. Сталін хлусіў, калі 7 лістапада 1941 г. гаварыў на Чырвонай плошчы, што за 4 месяцы вайны Нямеччына страціла 4,5 млн. жаўнераў.

Праз увесь час вайны Вялікабрытанія з сваёй садружнасьцю, распачаўшы вайну ў верасьні 1939 г. і ваюючы ў Эўропе, Афрыцы й Азіі й на акіянах, страціла 542 200 жаўнераў і 92 673 цывільных, зь якіх 61 000 загінула ў выніку паветраных налётаў немцаў.

Францыя страціла 250 тыс. вайскоўцаў і 350 тыс. цывільных. Польшча - 120 тыс. жаўнераў і 5,3 млн. цывільных. Югаславія - 300 тыс. жаўнераў і 1,33 млн. цывільных. За няцэлыя 4 гады вайны ЗША страцілі 295 тыс. жаўнераў і ніводнага цывільнага. Тут трэба адзначыць, што амэрыканцы ваявалі зь японцамі на астравох Ціхага акіяну, а таксама зь немцамі ў Афрыцы й Эўропе. Японія страціла 1,5 млн. жаўнераў, Італія - 410 тыс. жаўнераў.

Такім чынам, за ўсю Другую сусьветную вайну саюзьнікі Савецкага Саюзу страцілі забітымі 1 397 200 жаўнераў. У гэты лік не ўваходзяць людзкія страты тых дзяржаваў, што былі саюзьнікамі аліянтаў, але былі акупаваныя немцамі. Штопраўды, нельга сказаць, каб гэты лік быў зусім дакладны, бо ў вайну шмат людзей прападае бязь весьці або знаходзіцца за мяжой.

Пра людзкія страты Савецкага Саюзу мы даведваемся больш па вайне. Тут трэба ўлічваць ня толькі байцоў, забітых ворагам на фронце, але й забітых сваімі. Пра гэта згадвае акадэмік, дарадца прэзыдэнта Акадэміі Навукаў Беларусі А. Махнач:

«... «штрафбаты» замянілі «дысбаты» мірнага часу. Тут не лічыліся з жыцьцём жаўнераў. Гэтыя батальёны накіроўваліся на самыя небясьпечныя ўчасткі, на штурмы, пад прыцэльны агонь праціўніка. Нават калі ў гэтым не было неабходнасьці. Проста зьнішчалі людзей, каторыя ў чымсьці, няхай і ў нязначным, правінаваціліся. Загладзіць віну можна было адно сьмерцю або раненьнем.

На фронце дзейнічалі г. зв, «заградатрады» - спэцслужбы НКУС. Падчас адступленьня нашых войскаў яны білі па сваіх. Наперадзе - вораг, ззаду, выходзіць, другі. Выйсьце - сьмерць. Ці патрэбная была гэткая скрайняя мера? Думаю, не. Гэта кашчунства». («Мы и время», № 5, 1994 г.).

А былі яшчэ загады: 270, які забараняў жаўнеру Чырвонай Арміі здавацца ў палон, і 227, які забараняў адступаць, нават часова - загад «Ни шагу назад!». Апошні загад Сталіна даваў немцам магчымасьць акружаць і браць у палон сотні тысячаў чырвонаармейцаў.

Прыклад, як цанілася жыцьцё савецкіх жаўнераў у тым часе вайны, падаюць Васіль Кушнер і Якаў Паўлаў:

«Генэрал М. Антоненка, намесьнік камандуючага 1-ым Беларускім фронтам забясьпечаньня тылу, у 1985 г. на навуковай канфэрэнцыі з гонарам заявіў, што падчас Бэрлінскай апэрацыі ягонаму ведамству ўдалося «зьберагчы» вялікую колькасьць артылерыйскіх снарадаў. І гэта пры 100-тысячных людзкіх стратах у гэтай апэрацыі! Каму й для каго патрэбная гэткая «эканомія»?» («Беларускі гістарычны часопіс», № 2, 1994 г.).

Як падае ангельская газэта «Дзі Гардзіян» за 22.1.1993 г., паводле дадзеных Інстытута расейскай ваеннай гісторыі пад Сталінградам было расстрэляна найменш 13 500 байцоў за дэзэртырства й здраду. Калі так, дык сколькі тады байцоў загінула падчас абароны Сталінграду? А Сталін казаў Чэрчылю ў Тэгеране, што ў Чырвонай Арміі кожны жаўнер хоча быць героем, а не забітым...

У кожнай вайне былі героі, трусьліўцы, дэзэрціры, здраднікі і г. д. І хлусіць «Гісторыя БССР» (Т. II, Мінск, 1958 г.), пішучы:

«Маральны стан Савецкай арміі ў гады вайны вызначаўся выключна высокім узроўнем. Савецкія воіны ведалі, што вядуць справядлівую вызваленчую вайну за свабоду й незалежнасьць сваёй Айчыны. Усьведамленьне высакароднай мэты вайны нараджала масавы гераізм, гатоўнасьць ісьці на ахвяры дзеля перамогі над ворагам...

... зьнешняя палітыка СССР згуртавала вакол Савецкага Саюзу ўсе прагрэсіўныя сілы, сарвала спробу сусьветнай рэакцыі ствaрыць супраць Савецкай краіны адзіны фронт імпэрыялістычных дзяржаваў».

Хто-ж, як ня гэты «фронт імпэрыялістычных дзяржаваў» уратаваў Савецкі Саюз ад немінучай катастрофы, аказаў у першых месяцах савецка-нямецкай вайны Савецкаму Саюзу на просьбу Сталіна мілітарную й гаспадарчую дапамогу? Дый што гэта быў за «гераізм», калі ззаду стаялі спэцслужбы, якія стралялі ў сваіх?

Цяжка паверыць некаторым савецкім аўтарам, што захопнікі зьнішчылі ў Беларусі больш за 2 млн. грамадзянаў. У часе адступленьня на Ўсход у чэрвені 1941 г. органы НКУС расстрэльвалі вязьняў у турмах і забівалі на дарозе тых, хто ня меў сілы йсьці далей. А савецкія партызаны тымчасам палілі беларускія вёскі й забівалі сялянаў і беларускую інтэлігенцыю, якая працавала ў сваёй адміністрацыі й школьніцтве.

Ня трэба думаць і пісаць, што немцы, прыйшоўшы ў Беларусь, без дайпрычыны нішчылі цывільнае насельніцтва. Калі й былі ахвяры сярод простых людзей, дык найбольш праз сьвядомую правакацыю сталінскіх партызанаў, каб пасьля мець нагоду гаварыць і пісаць пра зьверствы фашыстаў. Ня лепшымі за фашыстаў былі й байцы Чырвонай Арміі, калі яна ўвайшла на нямецкую тэрыторыю.

## 3. На заканчэньне

Вайна прынесла Савецкаму Саюзу вялікія людзкія страты. Пра гэтыя страты сьведчыць той ускосны факт, што на 22 чэрвеня 1941 г. у СССР налічвалася 209,3 млн. жыхароў, а на 1 студзеня 1946 г. - 167 млн. Гэтыя калясальныя страты, больш за 42 млн., камуністы хавалі,. дакладнага ліку стратаў не падавалі, пра дапамогу саюзьнікаў маўчалі, а толькі гаварылі: «Мы победили!», «Мы за ценой не постоим!»

А колькі-ж гэта мільёнаў людзей панесьлі пакутніцкую сьмерць, жывучы ў «братнім саюзе народаў СССР»? Як падае Ёнатан Гловэр: «... за 70 гадоў пасьля 1917 г. савецкі рэжым фізычна зьнішчыў 61 911 000 людзей» («Гуманіты», Лёндан, 1999 г.).

**Юры Весялкоўскі**



ленскай Беларускай Гімназіі. Потым саарганізаваліся мяйсцовыя. Рэжысёрам была мяйсцовая вучыцелька Настазя Стэфановічыха. На сходах, што адбываліся ў Кяне ў 20-ыя гады, Лявон Пячура з Жэпаўцаў (хазяін, дзельны чалавек) казаў: «Хацелі мы наш прыродны язык. Мы не выкручваемся (у сэньсе: гаворым па-беларуску, а не па-польску)». Ён усё зваў на сабраньня, усё тварыў. Штосьці гаварыў пра Беларускую Грамаду. Сама чула». Пра свайго брата Ядвіга Іосіфаўна прыгадвала: «Брат Антон чытаў газэту «Крыніца». Як яны тварылі Беларусь, брат і мяне клікаў. Ён дачцэ, як яна шлюб брала, прывозіў ксяндза зь Вільні (каб па-беларуску)»

У касьцёлах у Вільні й навакольлі ў 20-30 гг. з вуснаў вернікаў і сьвятароў гучала беларуская мова. Старыя людзі прыгадвалі: «У Лаварышках быў ксёндз-беларус Ян Семашкевіч. Быў там таксама арганіст Пазьняк. Сьпяваў у касьцёле:

*Божа, што калісь народы*
*На асобкі падзяліў*
*І хацеў, каб народ кожны,*
*Мовай роднай гаварыў,*
*Ўзглянь-жа на народ бяздольны,*
*Беларускі, што к Табе*
*Голас ціхі, паднявольны*
*У пакорнай шле мальбе.*
*Асьвяці наш розум верай...*

Як ён так засьпяваў, мяйсцовыя палякі пачалі раптам абурацца: «Задужо позволяён!» Гэта было, як Лаўрынавічэне Альжбэта Рафалаўна прыступала да камуніі (значыць, недзе ў 33-34 годзе). Пасьля Семашкевіча быў ксёндз Грузьдзь. Пры Грузьдзе малады ксёндз Сымонка быў вікарыем. Пры гэтым Грузьдзе палякі арыштоўвалі нашых адамчуцкіх. Пасьля мэнчылі, зьбівалі. У сем'ях многіх мяйсцовых людзей меліся малітоўнікі (кніжачкі) па-беларуску пісаныя. Нарвойш Аміля згадвала пра свайго хроснага бацьку Антона Лукашэвіча: «У дзяцей і жонкі Лукашэвіча, як прыходзілі на набажэнства, меліся кніжачкі, па-беларуску напісаныя». Яна-ж прыгадвала: «Памятаю, была адна пабожная песьня, што сьпявалі ў час паста, пачыналася: «Крыжу сьвяты, найсьвяцейшы, Ад усіх дрэў найцьвярдзейшы...»»

Зазірнуўшы ў беларускі малітоўнічак «Голас душы», выдадзены ў 1934 г. паводле першага выданьня ксяндза й паэта Казіміра Стэповіча (Сваяка) ў Вільні, які захоўваўся ў доме Янкоўскай Соф'і Ігнатаўны, я знайшоў песьню, што пачыналася так:

*Сьвяты Крыжу, наймілейшы,*
*З усіх дрэваў найслаўнейшы!*
*Ў гэным дрэве моц і сіла,*
*Яно Езуса насіла,*
*Зь яго плыве асалода*
*Для гаротнага народа...*

«У Вільні ў касьцёле Сьв. Мікалая былі беларусы, прыняўшы літоўцаў на адну імшу. Яны шчэ на кут прынялі літоўцаў (у тым-жа касьцёле Сьв. Мікалая)», - уставіла сваё Ядвіга Юцкевіч і ўспомніла, як хораша сьпяваў па-беларуску ў касьцёле Сьв. Духа нейкі ксёндз Бэкіш.

Найбольш яскрава, поўна ў сьвядомасьці маіх суразмоўніцаў захаваўся вобраз і справы Адама Станкевіча: «Харошы, высокі мужчына. От ужо быў казнодзея. А харошы такі ўсьмех», «Станкевіч рабіў беларускую працэсію на Кальварыю (мусі, на Тройцу ўлетку). На заканчэньне працэсіі рабілі вячэрнік», «Ішлі працэсіяй пешшу зь Вільні да Кальварыі (ад касьцёла Сьв. Мікалая). Зьляталіся ўсе (з наваколья). Не прайсьці за людзьмі - так цікавіліся». (З газэты «Беларуская Крыніца» я даведаўся, што ў 20-ыя гг. (у прыватнасьці, на Сёмуху ў 1926 г.) з Жодзішак да Вільні, праз Гервяты й Лаварышкі, таксама рухалася беларуская каталіцкая працэсія). Соф'я Янкоўская так прыгадала сваю першую сустрэчу з Адамам Станкевічам у Адамчуках напярэдадні ІІ Сусьветнай вайны (у Адамчуках яна стала жыць з 1939 г., пашлюбаваўшыся з адным зь Янкоўскіх): «Да Янкоўскіх прыяжджаў Адам Станкевіч. Ён расказваў інцярэсна. Казаў, каб мы былі за сваё, каб мы былі беларусы. Станкевіч і Янкоўскі за беларуса ішлі. «Палякі, - гавора, - слухаюць, як Сікорскі гаворыць, літоўцы мяжу атносяць, а беларусы сядзяць пры гарэлачцы!» Гэта было ўлетку 39-га. Самыя жнівы былі».

Гэта й шмат чаго іншага прыгадалі жыхары Кяны й Адамчукоў. Усё выразна сьведчыла, што напярэдадні вайны на беларушчыну края насоўвалася вельмі сур'ёзная небясьпека, часіна сур'ёзных выпрабаваньняў. Вайна, якая пачалася неўзабаве, сабрала ўсіх Янкоўскіх у бацькі. Вельмі няпроста, насьцярожана ўспрымалася новая ўлада. Як «зайшла Літва», успаміналі жанчыны, яны (літоўцы - І. К.) гузікі абшывалі лахманамі, «каб не было відна, што не літовец».

**Ігар Карашчанка**

*Працяг будзе*

# III Зьезд беларусаў сьвету

*На III Зьезьдзе беларусаў сьвету былі прынятыя дзьве рэзалюцыі («Аб падтрымцы Міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і кансалідацыі беларускай дыяспары», «Беларуская мова павінна разьвівацца й квітнець у XXI ст.») ды адна дэкларацыя «Наш шлях: вартасьці й мэты». У дэклярацыі, у прыватнасьці, гаворыцца:*

«...Зьбегам гістарычных абставінаў Рэспубліка Беларусь уяўляе зь сябе нацыянальную дзяржаву, працэс кансалідацыі якой яшчэ не завершаны. Пагрозы й рызыкі, што цягнуцца зь мінулага, цесна спляліся з пагрозамі й рызыкамі, што ўзьніклі апошнім часам, ствараючы рэальную небясьпеку ня толькі для йснаваньня Беларусі як дзяржавы, але й для фізычнага, духоўнага йснаваньня беларускае нацыі.

Пагрозы:

*- слабасьць самаідэнтыфікацыі, як на ўзроўні масавай сьвядомасьці, так, асабліва, на ўзроўні элітаў;*

*- адсутнасьць традыцыяў самастойнага дзяржаўнага кіраваньня пры адначасовай моцы традыцыяў падпарадкаваньня маскоўскаму цэнтру;*

*- захоп улады самай кансэрватыўнай часткай былой савецкай намэнклятуры;*

*- пэўная слабасьць дэмакратычных сілаў;*

*- магутныя рычагі ўплыву на Беларусь, якія Масква захавала ў сваіх руках пасьля распаду СССР.*

Ключавыя пасады ў структурах улады атрымалі людзі, варожыя беларускай нацыянальнай ідэі, па-сутнасьці - «агенты влияния» іншай дзяржавы. «Единение» з Расеяй, стварэньне нейкага беларуска-расейскага «союзного государства» ёсьць нішто іншае, як адмова кіруючай групоўкі ад незалежнасьці й сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь.

За сем гадоў пасьля ўсталяваньня ў краіне напаўтаталітарнага рэжыму афіцыйныя адносіны з краінамі Заходняй Эўропы й ЗША мэтанакіравана сапсаваныя ўшчэнт, даведзеныя, бяз мала, да стану варожасьці. Беларусь апынулася ў ізаляцыі ад крыніцаў інвэстыцыяў і сучасных тэхналёгіяў, што пазбаўляе эканоміку краіны ўсялякай пэрспэктывы. Парадокс гісторыі ў тым, што менавіта ад цяперашніх беларускіх уладаў сыходзіць галоўная пагроза йснаваньню Беларусі ў якасьці незалежнай дзяржавы...

Вялікам знакам бяды паўстае над Беларусьсю пагроза фізычнага зыходу й выміраньня нацыі. Колькасьць насельніцтва ў краіне няўхільна зьмяншаецца. Сьмяротнасьць перавышае нараджальнасьць. Прычынамі трагічнага становішча зьяўляецца ня толькі чарнобыльская трагедыя, але й агульная сытуацыя ў краіне.

...працэсы, што разгортваюцца ў Беларусі, закранулі й дыяспару, якая на сёньняшні дзень складае больш за чвэрць беларускае нацыі - 3 - 3,5 млн. чал., зь якіх 2 млн. пражываюць у новых незалежных постсавецкіх рэспубліках. У адносінах да дыяспары ўлады праводзяць палітыку раьздзяланьня, падзелу на «сваіх» і «чужых».

Эканамічны й палітычны крызыс, адсутнасьць пэрспэктывы спарадзілі новую масавую хвалю эміграцыі зь Беларусі. За апошнія 10 гадоў за мяжу выехала больш за паўмільёну чал. Больш за 30 тыс. грамадзянаў Беларусі перанесьлі свой бізнэс у Расею, Украіну, Польшчу, Чэхію, Прыбалтыку. Зьяжджаюць таленавітыя навукоўцы й выкладчыкі ВНУ, пэрспэктыўныя спарцмэны й трэнеры. Масава зьяжджае моладзь.

... Трэці зьезд беларусаў сьвету лічыць, што перад беларускай нацыяй, усімі грамадзянамі Беларусі сёньня стаяць наступныя лёсавызначальныя *мэты*:

***- Стварэньне беларускай дзяржаўнасьці, дасягненьня рэальнага сувэрэнітэту й незалежнасьці Рэспублікі Беларусь...***

***- Усталяваньне дэмакратычнага дзяржаўнага ладу...***

***- Забясьпечаньне нацыянальных інтарэсаў, што азначае ўстойлівае разьвіцьцё паводле крытэрыяў высокіх сацыяльных стандартаў, дасягненьне і ўмацаваньне палітычнай незалежнасьці дзяржавы, абарону ейнай тэрытарыяльнай, матар'яльнай, палітычнай і культурнай цэласнасьці.***

***- Разьвіцьцё эфэктыўнага міжнароднага супрацоўніцтва з краінамі й народамі сьвету...***

***- Забясьпечаньне ў адпаведнасьці зь міжнародным правам 35-ці асноўных групаў канстытуцыйных (палітычных і грамадзянскіх) правоў свабоды чалавека...***

***- Фізычнае аздараўленьне насельніцтва, мінімізацыя наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, стварэньне прыймальнага экалягічнага асяродзьдзя.***

***- Ліквідацыя небясьпекі для фізычнага й духоўнага йснаваньня беларускай нацыі.***

***- Перадухіленьне пагрозаў палітычнага й сацыяльнага расколу беларускага грамадзтва, спрыяньне яднаньню беларускага народу дзеля супольнай стваральнай працы ў абдудове агульнага Беларускага дому.***

***- Пасьлядоўная рэалізацыя дзяржаўнай праграмы «Беларусы ў сьвеце», падтрымка беларускіх асяродкаў у іншых краінах сьвету.***



*Зора і Вітаўт Кіпелі даюць інтэрвію падчас перапынку ў рабоце зьезду*

## Кацярына Віньніцкая



*Кацярына Вініцкая зь пісьменьнікам Уладзімерам Арловым падчас перапынку ў рабоце зьезду. 6 ліпеня 2001 г.*

прыляцела на зьезд Беларусаў сьвету з далёкай Амэрыкі, з Лос Анджэласа. 11-гадовай дзяўчынкай яна змушана была пакінуць Бацькаўшчыну, дзе былі забітыя ейны бацька й брат. Засталася маці. Дзяўчынцы давялося прайсьці шмат пакутаў і выпрабаваньняў. Шмат працавала. Спачатку ў Нямеччыне, потым у Англіі. Пераехала ў ЗША, займела сям'ю, выхавала трох дзяцей, усім дала адукацыю. Праз усё жыцьцё спн. Кацярына не забывалася на родную Беларусь, на мясьціны, зьвязаныя зь дзяцінствам, з матчынай мовай, якое яна навучыла й дзяцей. Жывучы ў Амэрыцы, яна брала й дагэтуль бярэ рупны ўдзел у беларускім руху, у разнастайных беларускіх імпрэзах, рыхтавала выступленьні на канцэртах, рыхтавала выставы. І праз увесь час не шкадавала на беларускую справу ні здароўя, ні часу, ні грошай, бо непахісна верыла й верыць у адраджэньне Бацькаўшчыны, у перамогу беларушчыны.

Радзіму наведала ўпершыню праз 50 гадоў эміграцыі. Гэтым разам прыляцела як паўнамоцны дэлегат III Зьезду беларусаў сьвету, зрабіла значны матар'яльны ўнёсак у ягоную работу. Пасьля зьезду яна марыць паехаць у родныя мясьціны: у Несьвіж на Гарадзеншчыну. Яе чакаюць сустрэчы зь сябрамі й сваякамі. Твар ейны сьвеціцца радасьцю, яна поўная гумору й аптымізму. Слухаючы яе, сам заражаешся радасьцю й верай у лепшы лёс.

## Алёна Міхалюк



*Алёна Міхалюк на зелянеючым полі льну на Радзіме. 4 ліпеня 2001 г.*

старшыня Галоўнай управы Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі апошнімі чэрвеньскімі днямі гасьцявала ў Вільні, мела шмат сустрэчаў зь беларусамі-віленчукамі. Яна распавяла, што ўсё жыцьцё марыла зьдзейсьніць вандроўку ў Вільню, гістарычную сталіцу Беларусі. Малой дзяўчынкай спн. Алёна пакінула родную вёску Лонскія на Шаркаўшчыне і апынулася з бацькамі ў Нямеччыне. Хоць Вільня й зьяўлялася неафіцыйнай сталіцаю Заходняй Беларусі, спн. Алёна ніколі ў ёй не была, але ўжо тады ведала, што шмат беларусаў ехалі туды «ў пошуках зачараваных скарбаў» - за ведамі й адукацыяй. Алёна Міхалюк зьведала нарэшце мясьціны, зьвязаныя са Скарынам, Каліноўскім, славутую Вострую Браму і сьвятыя для беларусаў усяго сьвету Базыльянскія Муры. Яна пабывала на могілках Росы й на Ліпоўскіх могілках. Нават не чакала пабачыць Вільню гэткай красуняй. Знаёмства з архітэктурай, музэямі гораду, дзе ўсё дыхае беларушчынай, захапіла яе.

Падчас сустрэчаў нашая госьця распавядала пра жыцьцё й дзейнасьць беларускай дыяспары Англіі, пра цяжкія паваенныя гады, як цяжка было знайсьці сталую працу ў новай краіне. Беларускія эмігранты па прыезьдзе ў Англію мусілі падпісаць дамову на 2 гады пра абавязковую працу на ангельскіх фабрыках і заводах на самай поўначы краіны. Праца, зразумела, была фізычна цяжкая, умовы пражываньня таксама. Але, не зважаючы на цяжкасьці, беларусы першыя сярод ангельскай эміграцыі стварылі ў 1946 г. сваё згуртаваньне, якое ў 1947 г. было зарэгістраванае ўладамі. Гэта дазволіла суродзічам сустракацца, праводзіць супольныя імпрэзы, займацца дабрачыннасьцю. Моладзі трэба было здабываць адукацыю, прафэсіі. Неабходна было вучыцца ангельскай і беларускай мовы. Пачалі ўзьнікаць нядзельныя школкі, цэрквы, стварылі свой навуковы Скарынінскі цэнтар. Будынкі, мэблю, абсталяваньне набывалі на сяброўскія складкі, усё рабілася сваімі рукамі й намаганьнямі. На прыкладзе дзейнасьці ангельскіх беларусаў у Англіі вучыліся дзейнічаць іншыя нацыянальнасьці.

Сёньня шмат хто зь беларусаў ваеннай эміграцыі адыйшоў у іншы сьвет. Але жыцьцё працягваецца, унукі эмігрантаў ходзяць у нядзельныя школкі, адну зь якіх узначальвае Караліна Міцкевіч, былая студэнтка а. Надсана. Штогод беларусы Англіі адзначаюць самае вялікае сьвята - 25 Сакавіка, Слуцкі Збройны Чын, Купальле, Каляды. Адбываюцца штогадовыя зьезды Згуртаваньня, працуе Скарынаўскі навуковы цэнтар з унікальнымі бібліятэкай і архівам. Дзейнасьць ангельскіх беларусаў шырака ведамая ў сьвеце. Прыгадайма імёны а. Надсана, Ю. Весялкоўскага, М. Швэдзюка, С. Будкевіча, А. Ружанца, М. Баяроўскага ды шмат іншых. І, канечне, вялікую працу робіць спн. Алёна Міхалюк, на плечы якой ускладзенае старшынства Галоўнай управы Згуртаваньня.

*Старонку падрыхтаваў*
**Павал Саўчанка**




Арганізацыя «КРАЙ» удзячная вам за інфармацыйную падтрымку. Спадзяемся, што і ў далейшым будзем супрацоўнічаць у справе барацьбы за Беларускую Незалежную Нацыянальную Дзяржаву. Паведамляем таксама, што ў выдавецтве арганізацыі «Край»выйшаў з друку даведнік «Беларускі нацыяналізм». Акрамя даведніка «Беларускі нацыяналізм», выдавецтва «Голас Краю» на працягу 1999-2000 гадоў выдала таксама наступныя кнігі: «Абэцэда беларускага нацыяналізму» Вінцэнта Гадлеўскага; «Патрэба нацыянальнай ідэі», «Чаму беларус абавязаны быць нацыяналістам» С. Ёрша; «Беларуская партызанка», «Нацыяналізм у сьвеце» (ч. 1), «Беларускім героям - народную памяць», «Як судзілі Антона Сокал-Кутылоўскага», Аляксандра Талерчыка; «Кожнае пакаленьне нашых продкаў выбірала свабоду». Гэтыя выданьні зьмешчаныя ў INTERNET на сайце беларускіх нацыяналістаў: www.spa-kraj.org Жыве Беларусь! Жыве вечна!

## Абласны сэмінар

краязнаўчых арганізацыяў і ўстановаў адбыўся 20 траўня ў Браславе. Сэмінар праходзіў на турбазе «Браслаўскія вазёры» пры падтрымцы фонду Льва Сапегі. Арганізатарам сэмінару было Браслаўскае краязнаўчае таварыства імя Отана Хедэмана, створанае ў 1989 г. пры Браслаўскім гістарычна-краязнаўчым музэі. Отан Хедэрман (1887 - 1937) выдатны гісторык і краязнаўца, аўтар шматлікіх манаграфіяў з гісторыі Браслаўшчыны й Дзісьненшчыны, адзін з заснавальнікаў у Браславе краязнаўчай арганізацыі, што дзейнічала ў міжваенны пэрыяд. Галоўная мэта аднoўленага краязнаўчага таварыства ёсьць правядзеньне ўсебаковых гістрарычных дасьледаваньняў Браслаўскага рэгіёну, папулярызацыя ягонай гістарычнай спадчыны, каардынацыя школьнага краязнаўчага руху. Найбольш значным плёнам працы таварыства зьўляецца арганізацыя і ўдзел у навукова-краязнаўчых канфэрэнцыях «Браслаўскія чытаньні» (1989, 1991, 1994, 1997, 2000) ды выпуск шматлікіх матар'ялаў краязнаўчага характару.

**Кліменьці Кажан**
*Шаркаўшчына*

## Пачалі судзіцца

з калгасам імя Леніна Наваградзкага раёну. Старшыня калгаса Дзямук В. А. падмануў з домам, выдзеленым Хвіневічу Івану Нікалаевічу і ягонай сям'і. Ён аддаў дом іншаму чалавеку, Мацкевічу В. І., які прапрацаваў у калгасе ўсяго 3 мес., а Хвіневіч - 47 гадоў. Закон поўнасьцю на нашым баку, але ад мяйсцовых ворганаў прыходзяць адныя адпіскі.

Вазілі мы ў лістападзе 2000 г. ў адміністрацыю прэзыдэнта сына, інваліда 2-ой групы Савецкай Арміі. Там завялі картку, увялі ў кампутар, а адказу няма да гэтай пары. Вось, як у Рэспубліцы Беларусь выконваюць законы!

Для таго, каб выселіць Хвіневічаў з абяцанага ім дому, учынілі пажар і скралі мэблю і бульбу. Частку мэблі так і не вярнулі. Беззаконьне працягваецца. Калі хто можа дапамагчы, Хвіневічы жывуць: 231429 в. Харосіца, Наваградзкі р-н, Гродзенская вобл.

**Алесь Бажко**
*Горадня*

## Газэту «Рунь»

чытаю сам і перадаю знаёмым, суродзічам. Шмат хто кажа, што было-б добра, каб у «Руні» пісалі больш аб цяперашніх падзеях у Беларусі - кароткія весткі замест доўгіх артыкулаў. Цікава, як пройдуць прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі, ці дэмакратычная апазыцыя нарэшце зьяднаецца, ці надалей будзе сварыцца між сабою, а дыктатар Лукашэнка будзе таўчы яе дубінкамі ды сьмяяцца.

**Нікадэм Жызьнеўскі**
*Амэрыка*

## Газэта «Беларус»

спыніла выхад летась у траўні. Гаворка пра тое, што «новыя беларусы» яшчэ ацялюгваюцца навокал, а станкевіча ці зорку кіпель не паўторыш… Дык вось і няма каму. Усё яшчэ гавораць, што рэарганізуюцца, а тады… Пра «тады» мы ўжо чулі. Бачу, што «Руні» памагаюць таксама «апошнія з магіканаў», а іх ужо мала асталося. Дык тыя, што і ў нас во тут Таронта й далей папрыязджалі, тымчасам таксама ацялюгваюцца. Помачы дый грошы ад іх на газэты ці выдавецтвы кнігаў не было й ня будзе… Кішаць «тараканы ў саладусе». А нашыя зьняможаныя, сканфужаныя, абкрадзеныя, пару чарнобылямі прыбітыя й заражаныя ўсё яшчэ спадзяюцца, што

*Сонца прыйдзе з Захаду!*

Можа й дасьць «божа», бо-ж да гэтага з д'ябламі ўсходнімі было нягожа!

**Кастусь Акула**
*Канада*

*Лета для жыхароў Вільні прынесла ня толькі мноства гароднiны, ягадаў ды добрага настрою, але й культурныя забавы. Літоўцы ў рамках Днёў беларускай культуры ў Літве мелі магчымасьць бліжэй пазнаёміцца з мастацтвам, культурай і эканомікай краіны-суседкі.*

**Ансамбаль «Белыя росы»** зь Беларусі даў 11 чэрвеня ў Доме Настаўнікаў канцэртю Уваход быў вольны, і на канцэрце сабралася шмат гледачоў.

**Выстава бел. графікаў** дзейнічала з 12 па 23 чэрвеня ў галерэі «Графікяс центрас». Выстаўляліся працы такіх выдатных графікаў, як Ю. Валынец, А. Басалыга, а. Ларына.

**Выстава «БЕЛАРУСЬ-ЭКСПО»** з 13 па 15 чэрвеня праходзіла ў Віленскім палацы канцэртаў і спорту. Выстава была прысьвечаная сучасным эканамічным дасягненьням Рэспублікі Беларусь. Штопраўдзь, выстава атрымалася сьціплая: заўсёдныя халадзільнікі, тэлевізары, трактары, а таксама шпалеры, фарбы, угнаеньні, ніткі, абутак, гадзіньнікі ды інш. Наведнікі змаглі пакаштаваць напоі, выробленыя ў Беларусі, пачуць сучасную беларускую музыку. На выставе вельмі не ставала беларускіх сувэніраў і касмэтыкі, што вельмі расчаравала віленскіх жанчынаў.

**Мая Ніцка**

# Назіральнікі за выбарамі

Выбары заўсёды займалі й будуць займаць асаблівае мейсца ў жыцьці кожнай краіны, бо іхныя вынікі акрэсьліваюць развіцьцё ўсяго грамадзтва на доўгія гады. Ад гэтых вынікаў залежыць і лёс кожнага асобнага чалавека.

У дэмакратычных краінах выбары зьяўляюцца натуральным супольнаграмадзкім сродкам магчымай (але неабавязковай) перадачы дзяржаўнай улады ад аднае палітычнае сілы да іншай мірным законным шляхам. У краінах з аўтарытарным рэжымам выбарам прыдаецца яшчэ большае значэньне й асабліва апошнім часам. Аўтарытарныя рэжымы імкнуцца праз выбары замацаваць сваю ўладу, свой дзяржаўны лад, паказаць, што яны падтрымліваюцца большасьцю ці нават усімі грамадзянамі краіны й што яны кіруюць ад імя і ў адпаведнасьці з воляй народу.

Аднак паколькі атрымаць пазытыўныя вынікі на адкрытых і свабодных выбарах дыктатарскія рэжымы, як правіла, ня могуць, яны змушаныя зварочвацца да разнастайных фальсыфікацыяў, злоўжываньняў уладай, да розных, патаемных і відочных, парушэньняў выбарчага закону, каб паказаць сусьветнай супольнасьці дый свайму ўласнаму народу, выбаршчыкам сваю нібыта прыхільнасьць да палітычнага плюралізму й дэмакратычных правілаў выбарчай гульні. Парушэньні выбарчага заканадаўства ў таталітарных краінах фактычна маюць мейсца на ўсіх стадыях выбарчага працэсу, пачынаючы ад фармаваньня выбарчых камісіяў да падліку галасоў на выбарчых участках і абвешчаньня вынікаў галасаваньня.

У аўтарытарных краінах яшчэ пры распрацоўцы й прыняцьці выбарчага заканадаўства закладваюцца нормы права, якія дазваляюць уладам атрымаць загадзя запланаваны вынік выбараў. Гэтыя высновы былі падцьверджаныя аналізам вынікаў рэфэрэндуму, праведзенага ў Рэспубліцы Беларусь у лістападзе 1966 г., выбараў дэпутатаў мяйсцовых Саветаў 1999 г. і парляманцкіх выбараў 2000 і 2001 гг.

У такіх складаных умовах фармавалася сыстэма нацыянальнага незалежнага назіраньня недзяржаўных грамадзкіх аб'яднаньняў за выбарамі ў Рэспубліцы Беларусь. Нацыянальнае незалежнае назіраньне арганізаванае ў адпаведнасьці з арт. 13 «Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь» і «Інструкцыі Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Беларусь за выбарамі й правядзеньнем рэфэрэндумаў». Згодна беларускага заканадаўства, у назіраньні за выбарамі могуць браць удзел палітычныя партыі, грамадзкія аб'яднаньні, прадстаўнікі працоўных калектываў, а таксама дэпутаты ўсіх узроўняў, даверaныя асобы кандыдатаў у прэзыдэнты, журналісты. З усёй гэтай сыстэмы магчымасьцяў назіраньня за выбарамі мы спынімся на двух кірунках: 1) недзяржаўныя грамадзкія аб'яднаньні й 2) вылучэньне назіральнікаў ад выбаршчыкаў паводле мейсцы жыхарства.

Для арганізацыі дасканалай сыстэмы назіраньня, а пры неабходнасьці й паралельнага падліку галасоў, восеньню 1999 г. зь ініцыятывы сямі грамадзкіх аб'яднаньняў была створаная Цэнтральная Каардынацыйная Рада (ЦКР). Арганізатарамі ЦКР былі такія грамадзкія аб'яднаньні: Рух за дэмакратычныя й свабодныя выбары, Беларускі рэспубліканскі клюб выбаршчыкаў, Беларускі Хельсінскі Камітэт, Беларускі Жаночы інфармацыйна-каардынацыйны цэнтар, Свабодны прафсаюз Беларусі, Фонд ім. Льва Сапегі, Цэнтар «Беларуская пэрспэктыва». Рашэньні ЦКР прымаюцца кансэнсусам. Галоўнай-ж мэтай ЦКР зьўляецца аб'яднаньне намаганьняў грамадзкіх арганізацыяў дзеля назіраньня за арганізацыяй і правядзеньнем выбараў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. У ва ўсіх абласьцёх арганізаваныя абласныя, а ў Менску гарадзкая каардынацыйныя рады (АКР і МГКР). Арганізатарамі гэтых каардынацыйных радаў зьўляюцца структурныя арганізацыі рэспубліканскіх аб'яднаньняў, што ўвайшлі ў ЦКР. У кожным раёне вызначаны раённы каардынатар (РК) у справе назіраньня за арганізацыяй і правядзеньнем выбараў. Галоўная задача РК і каардынацыйных радаў усіх узроўняў ёсьць падбор на аснове дабраахвотнасьці людзей для назіраньня за падрыхтоўкай і правядзеньнем выбараў. Яны займаюцца таксама навучаньнем гэтых людзей і забясьпечаньнем іх усімі неабходнымі заканадаўчымі й нарматыўнымі матар'яламі пра выбары, блянкамі актаў і заяваў пра парушэньні выбарчага заканадаўства.

Дадзеная структура арганізацыі дазволіла нам у 2000 г. падрыхтаваць больш за 3000 назіральнікаў і накіраваць іх для назіраньня за выбарамі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Нашымі назіральнікамі выяўлена каля 5 тыс. парушэньняў выбарчага заканадаўства, зь якіх паводле 3,5 тыс. былі складзеныя адпаведныя акты й заявы, каторыя затым былі скіраваныя для разгляду ў вышэйшыя камісіі, у пракуратуру й суды. Вынікі нашага назіраньня паказалі, што выбары больш чым у траціне выбарчых акругаў (38 з 110) не адбыліся, Міжнародная супольнасьць гэтых выбараў не прызнала, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь аказалася нелегітымнай. Гэта быў першы падобнага кшталту досьвед у гісторыі выбараў у Рэспубліцы Беларусь.

У 2001 г. пра свой намер удзельнічаць у назіраньні за выбарамі заявіла Асамблея недзяржаўных грамадзкіх аб'яднаньняў. Зважаючы на сёньняшнюю сытуацыю, мы паставілі аб'яднаць нашыя намаганьні. У выніку крыху зьмянілася структура сыстэмы незалежнага назіраньня за выбарамі. Аб'ядноўвае ўсю сыстэму Цэнтральная Рада (ЦР), якую ўзначальваюць два сустршыні. У складзе ЦР таксама юрыст, аналітык, каардынатар, прэс-цэнтар ды інш. Адпаведна ў Менску, а таксама ва ўсіх раёнах і гарадох краіны створаныя КР, якія ўзначальваюць два сустаршыні, у кожнай радзе ёсьць юрысты, а ў абласных яшчэ апэратары й сакратары. У цяперашні момант для працы КР падабраныя сьціплыя офісныя памешканьні, арэндуецца неабходная аргтэхніка. Арганізаванае сталае назіраньне за ўсімі выбарчымі працэсамі практычна ў маштабах усёй краіны. Вядзецца рупная праца ў падборы грамадзянаў Рэспублікі Беларусь, ахвотных весьці назіраньне за хуткімі прэзыдэнцкімі выбарамі. Яны замацаваныя за канкрэтнымі ўчасткамі й памагчымасьці прысутнічаюць на паседжаньнях выбарчых камісіяў. Арганізоўваюцца сэмінары, трэнінгі, распрацаваныя неабходныя падручнікі, даведнікі, формы блянкаў, актаў, пратаколаў, заяваў, інструкцыяў ды інш.

Характэрнай асаблівасьцю зьўляецца тое, што нашая сыстэма назіраньня ёсьць незалежная, яна не перакрыжоўваецца з партыйнымі сыстэмамі назіраньня, з камандамі кандыдатаў у прэзыдэнты, з дэпутатамі.

**Мечыслаў Грыб**

 



# Душа Тырана

*Працяг. Пачатак у № 39.*

Уражаны Сьвяты Пётра нейкі час назіраў, як яна ўсё больш аддалялася, вось зрабілася ўжо не большая за парушынку. Апостал кінуўся да тэлефону.

- Усемагутны! - у голасе Сьвятога Пятра адчувалася разгубленасьць, - яна вярнулася назад, на Зямлю!

- Я ведаю, - спакойна адказаў Усемагутны.

- Але яна зноў наробіць там бяды! - Сьвяты Пётра ледзь не плакаў ад роспачы, - чаму ты не затрымаў яе тут?

- На жаль, гэтая Душа занадта цёмная. Нават я не магу яе ўтаймаваць, - адказаў Усемагутны.

- Дык што-ж рабіць? Хіба няма у нас сілы супроць яе? Ты-ж Усемагутны! Зрабі што-небудзь!

- Я не магу вярнуць гэтую Душу й не магу паслаць яе ў пекла, дзе ёй і месца. Не магу пакуль што. Але ты не адчайвайся. Я адчуваю, што гэтае вяртаньне ёсьць апошняе для яе.

Сьвяты Пётра з надзеяй спытаўся:

- Значыць, на Зямлі зьявіцца добрая Душа? А якая пераможа?

- Я ня ведаю. На жаль, - адказаў Усемагутны.

- Але як гэта, Усемагутны?! - запанікаваў Сьвяты Пётра, - няўжо ты ня можаш нічога зрабіць?

- Я магу ўсё, але гэта будзе няправільна дый не цікава, калі я пачну сам усё рабіць за людзей. Яны павінныя самі разабрацца й вырашыць, як лепей жыць. А я дапамагу, калі буду бачыць, што без маёй дапамогі яны не абыйдуцца.

* * *

...Тыран валодаў гэтай краінай ужо некалькі гадоў. Ён быў задаволены сваёй краінай і сваім народам. Нават занадта задаволены. Усё было нашмат лепш, чым ён спадзяваўся ў сваіх марах, калі яшчэ ня быў Тыранам. Ён любіў часьцяком у цішыні свайго адумысловага кабінэту цешыць сябе салодкім успамінам. Тады, у тую хвіліну, калі ён зразумеў, што яму аддалі на валоданьне гэтую краіну, напачатку ён вельмі напалохаўся. Ён марыў аб уладзе, але ён яе й надзвычай баяўся - а раптам гэты такі ненавісны яму народ, гэты шэры натоўп ня будзе яму падпарадкоўвацца?!

Ён доўга чакаў гэтага часу. Нельга сказаць, што ўлада зваліўся на яго нібы «манна нябесная». Патрэбна было добра папацець ды папрытварацца, перш чым гэты час настаў. Ён ішоў да яго дзесяцігодзьдзі. Надараліся хвіліны, калі ён сам амаль што страчваў веру ў тое, што ягоны час надыйдзе. Але ён быў моцным чалавекам, надзвычай моцным. Ён пераадольваў гэтыя непрацяглыя хвіліны слабасьці й зноў рушыў наперад, да сваёй мары.

Першым-жа днём свайго кіраваньня ён ледзь стрымаўся, каб адразу-ж не зрабіць так, як яму хацелася вось ужо не адзін год. Яму хацелася прымусіць гэтых нікчэмных людзей, якія яго толькі раздражнялі, гэты натоўп, лічыць яго за Бога. Ён марыў, каб гэтыя спакутаваныя жыцьцём людзі цалавалі ягоныя партрэты ды маліліся не на выяву Ўсемагутнага, а на ягоную, Тыранаву выяву. Ён быў упэўнены, што так будзе, але патрэбна было трошкі счакаць. Усяму свой час! Народ быў хоць і нікчэмны й ня варты нейкай павагі, але нельга было вось гэтак адразу яму пра гэта сказаць. Патрэбна было, каб народ сам давёў сябе да апошняй рысы нікчэмнасьці. А гэта ня так хутка робіцца. І ня так лёгка.



Графіка Юрыя Малаша.

Напачатку ўсё йшло гэтак, як яму й мроілася. Такога хуткага посьпеху ён нават не чакаў. Таго дня, калі ягоныя службоўцы далажылі яму пра выпадак, які здарыўся ў адным невялікім горадзе, Тыран зразумеў, што ён нарэшце перамог канчаткова. Ён адразу выклікаў да сябе аднаго з самых вядомых пісьменьнікаў, які згадзіўся служыць яму (большасць, на жаль, або зьехалі з краіны, або навогул перасталі пісаць, бо пісаць дазвалялася толькі пахвальбы Тырану), і загадаў службоўцу, каторы прыйшоў да яго з дакладам, пераказаць тую надзвычай прыемную навіну пісьменьніку, каб пісьменьнік пасьля абавязкова дзе-небудзь выкарыстаў яе. А навіна была гэткая: у згаданым мястэчку праводзілася галасаваньне. У народа пыталіся, ці хоча ён пазбавіцца сваёй мовы. (Тыран некалі ў школе атрымаў дрэнную адзнаку з роднай мовы й ніяк ня мог забыцца пра тую сваю ганьбу. Ён доўга думаў, як адпомсьціць гэтай мове, пакуль да яго не прыйшла геніяльная думка: няхай ягоны народ пазбавіць яго ад яе). Перад галасаваньнем цэлая хебра ягоных памагатых даводзілі народу па тэлевізіі ды радыё, што мова, якой ён карыстаецца, на жаль, ня вельмі прыгожая й на ёй нельга стварыць нешта выкшталцонае, - таму пажадана ягонаму народу перайсьці на мову суседняга, больш моцнага й культурнага народу. Да Тырана даходзілі весткі, што галасаваньне ідзе, як мае быць: народ падтрымліваў Тырана. Тыран увачавідкі адчуваў, як яму дадавалася моцы, ён быў упэўнены ў сваёй перамозе... І вось тут прыйшло тое самае паведамленьне. У тым мястэчку галасаваньне йшло гэтаксама, як і паўсюль, са значнай перамогай Тыранавых сілаў. Калі галасаваньне ўжо падыходзіла да канца, на ўчастак прыйшла бабулька. Яна, кульгаючы ды абапіраючыся на сваю кульбу, паволі даклыпала да стала, дзе сядзелі ўжо даволі змораныя сябры камісіі, узяла бюлетэнь ды скіравала да кабінкі. Да яе адразу-ж падыйшоў паліцыянт.

- Давайце, бабулька, я вам дапамагу. Можа, вы ня ведаеце, што тут патрэбна напісаць?

Бабулька злосна адхінула працягнутую да яе руку паліцыянта й, пырскаючы сьлінай проста ў твар паліцыянту, прашамкала бяззубым ротам:

- Адыйдзі! Не чапай! Ня дам!

Яна расхінула свой старэнькі андарак ды засунула некуды пад шматлікія свае апраткі кавалачак белай паперы, які дагэтуль трымала ў руках.

- Не, вам я нічога не аддам! - бабулька відавочна хвалявалася, - вы яшчэ выкінеце!

І раптам выхапіла са сваёй схованкі бюлетэнь, вокамгненна засунула яго ў рот ды пачала хуценька шамкаць бяззубымі пашчэмкамі. Сябры камісіі ўсхвалявана паўсхопліваліся са сваіх месцаў. Паліцыянт чамусьці зьняў з галавы сваю шапку, затым зноў нацягнуў яе ажно на самыя вочы. Бабулька-ж, ні на кога не зважаючы, рабіла сваю справу. Пасьля таго, як бюлетэнь быў разжаваны ды праглынуты, яна падыйшла да дзяржаўнага сьцягу (на ім быў умацаваны партрэт Тырана) і моцна, ледзь не ўзасос, пацалавала Тырана.

- Я ня веру ім, гэтым людзям, - шапнула бабулька партрэту, - я зьела бюлетэнь, бо не давяраю ім. А ты будзеш у маім сэрцы, пакуль я жывая!

Бабулька скончыла сваю прамову, больш падобную на малітву, яшчэ раз пацалавала Тырана, пасьля павярнулася ў бок зьбянтэжанай камісыі, плюнула ды пашкандыбала вонкі.

Тыран загадаў свайму службоўцу некалькі разоў паўтарыць гэты аповед. Ён хацеў пачуць усё новыя ды новыя падрабязнасьці, на якія не скупіўся службовец. Нарэшце, калі аповед быў паўтораны ці ня сёмы раз, Тыран дазволіў пісьменьніку занатаваць яго, а пасьля паказаць яму дзеля праверкі. Калі пісьменьнік выйшаў з кабінэту, Тыран зьвярнуўся да службоўца:

- Ты высьветліў прозьвішча бабулькі й дзе яна жыве?

- А якжа-ж, Найвялікшы! Загадаеш аказаць ёй матар'яльную дапамогу?

- Ні ў якім разе! Трэба, каб яе надзвычай пакрыўдзіла мясцовая ўлада. Ну, ты ведаеш, як гэта робіцца. Няхай усе дазнаюцца, як ёй цяжка. А вось пасьля, калі да таго часу яна не памрэ, няхай зьявіцца мой прадстаўнік ды навядзе парадак. Здыме мясцовага ўладара ды выканае ўсе просьбы гэтай старой. Зразумеў?

- Усё зразумеў, Найвялікшы. Будзе зроблена належным чынам. Не ўпершыню-ж!

* * *

Першыя зьвесткі аб тым, што ня ўсё спакойна ў ягонай краіне, Тыран пачаў атрымліваць адразу-ж пасьля таго, як стаў уладарыць. Але тыя зьвесткі яго ня надта непакоілі. Так, калі-нікалі, апазыцыянэры, якіх было ня так ужо й шмат, наладжвалі то мітынг, то пікет, але зь імі Тыранаў карны апарат (а ён быў надзвычай вялікі) разьбіраўся хутка: каго ў турму, хто «выпадкова» трапляў у аўтамабільную катастрофу. Мэтадаў прыструніць тых, хто не хацеў падпарадкоўвацца, было надзвычай шмат. Галоўны-ж апазыцыянэр, на шчасьце Тырану, уцёк за мяжу. Тырану ён быў нястрашны, бо хто-ж будзе ўспрымаць усур`ёз нейкае цяўканьне з-за мяжы?! Так думаў Тыран, ягонаму спакою пакуль што нішто не пагражала. Народ яго слухаўся. Калі й кляў, дык шэптам, бо ўголас выказацца мелі сьмеласьць зусім нямногія.

Так доўжылася некалькі гадоў, Тыран пачаў ужо страчваць пільнасьць. Не, свой карны апарат ён не распусьціў і не паменшыў, але гэты апарат, як высьветлілася, не выконваў сваіх сьвятых абавязкаў перад Тыранам да канца.

**Лілея Сазанавец**

*Працяг будзе*



Графіка Юрыя Малаша.

**Уладзімір Кузьменка**

## «Big Beng» - «Le Moulin Rouge»

**Б. Я. Зэльдовічу**

*Узяўся мароз і, як мае быць, дужы.*
*А ім хоць-бы што! Ад зары да зары*
*Красуюць, прабачце, прадажныя ружы*
*Амаль што на кожным рагу ці двары.*
*Няўчас завяліся сіпатыя птахі.*
*Галосяць цяпер на ўвесь сьвет аб сабе:*
*Ня туляць пляскатыя коўзкія дахі,*
*Абрыдла матляцца на голым слупе.*
*Разьюшыўся вецер і пнецца бязь меры,*
*За ветахам шпарка імкне наўздагон.*
*І аўра сузор'яў даўнейшае эры*
*Зыйшла на мяне, нібы спраўдзіўся сон.*
*Мігціць патаемная неба карціна,*
*І безьмеж мігціць на чатыры бакі!..*
*І мне захацелася ўсьлед за нэйтрына*
*Ступіць у Сусьвет, сігануўшы ў вякі.*
*Калі насамрэч закрывіла Прастору,*
*Па Доплеру трэба яе абгінаць -*
*Дык ў момант «Вялікага Выбуху» дзёру*
*Спатрэбіцца, спрытна злаўчыўшыся, даць.*
*Пасьля незвычайнай касьмічнай прыгоды*
*Мяне не чапай, не кранай і ня руш,*
*Бо мушу я храпнуць з такое нагоды*
*Ў кавярні пад шыльдаю «Le Moulin Rouge».*

Газэта змакетаваная на настольна-выдавецкай сыстэме рэдакцыі atgimimas

Адрас для допісаў: «Рунь» 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| Б. Кіт зь Нямеччыны | USD 100 + 100 |
| К. Акула з Канады | USD 30 |
| Н. Жызьнеўскі з Амэрыкі | USD 30 |
| В. Станкевіч зь Вільні | LTL 100 |
| В. Ефрэменкаў з Амэрыкі | USD 30 |
| К. Віньніцкая з Амэрыкі | USD 20 |
| В. Шчэцька з Амэрыкі | USD 20 |
| С. Будкевіч з Англіі | GBP 50 |
| Беларускі Дабрачынны Фонд з Англіі (праз спн. Л. Міхалюк) | GBP 280 |
| Г. Лех з Расеі | USD 10 |
| Музэй Я. Купалы (Менск) | USD 3 |
| к. Варабей з Амэрыкі | USD 20 |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік Таварыства беларускай культуры ў Літве
выдаўца Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі»
адрас рэдакцыі Taikos, 50-29, 2017 Vilnius, Lithuania
тэлефон, факс: (+370 2) 42 38 02
http:// www.runbel.lt
e-mail: editor@runbel.lt
Алег Мінкін – рэдактар
Павал Саўчанка – сакратар
друкарня UAB "Dumsa", Žirmunų g. 68, Vilnius
наклад 1000
ISNN 1392-7671

 